Наша Свабода
№61(148) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА
13 ЧЭРВЕНЯ 2001 года СЕРАДА
Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103
тэл. 228-69-18, 210-02-53
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com
КОШТ СВАБОДНЫ

**ПАДПІСКА НА НАШУ СВАБОДУ!**

**Каб не шукаць кожную раніцу нашу газету ў шапіках, падпішыся на яе цяпер! Падпіска на НАШУ СВАБОДУ магчымая праз пошту! У любым аддзяленні сувязі патрабуйце падпісны каталог з індэксам НАШАЙ СВАБОДЫ.**

**Наш падпісны індэкс – 63478**

## Назіральнікі рыхтуюцца да выбараў

*12 чэрвеня старшыня рабочай групы Асамблеі недзяржаўных арганізацыяў Алесь Бяляцкі ды кіраўнік руху «За дэмакратычныя свабодныя справядлівыя выбары» Мечыслаў Грыб прэзентавалі грамадскую ініцыятыву «Незалежны погляд».*

Ініцыятыва плануе падрыхтаваць да 14 тысячаў унутраных назіральнікаў, зыходзячы з таго, што на кожны з участкаў патрэбна як мінімум 2 назіральнікі. Калі на парламенцкіх выбарах існавала 6.693 участкі, то на прэзідэнцкіх выбарах іх колькасць можа ўзрасці. У працэсе падрыхтоўкі ўнутраных назіральнікаў задзейнічана блізу 200 грамадскіх недзяржаўных арганізацыяў. «Кожная грамадская арганізацыя на выбары ідзе ад сябе. Яна будзе вылучаць сваіх сябраў, выдаваць пасведчанне, накіроўваць на ўчасткі. Але каб нашая праца была больш плённая, мы вырашылі аб'яднацца для каардынацыі нашых дзеянняў. Мы будзем дзейнічаць кожны паасобку, але на агульны вынік», — гэтак бачыць дзейнасць «Незалежнага погляду» Мечыслаў Грыб. Ён робіць асаблівы акцэнт на тым, што «нашае назіранне – незалежнае».

*Заканчэнне на стар.3*



Сотрудник Прокуротуры РБ Дмитрий Петрушкевич (слева) и бывший следователь прокуратуры Олег Случек во время интервью, фрагменты которого мы печатали в прошлом номере

## «8 канал» вяртаецца

З ліпеня гэтага года ў эфіры зноў з'явіцца тэлекампанія «8 канал». Са словаў выканаўчага дырэктара «8 канала» Пятра Чарнамоўца, кампанія падпісала дамову з міністэрствам сувязі на арэнду новай частаты – цяпер на 11 канале. Нагадаем, што вяшчанне тэлекампаніі было спыненае 1 студзеня 2001 года, а замест яе на 8 канале пачалі выходзіць праграмы Сталічнага тэлебачання, пераважную частку эфіра якога займае рэтрансляцыя расійскага канала Ren-TV.

## Антысеміцкі акт вандалізму

11 чэрвеня ў Брэсце невядомымі зламыснікамі быў апаганены помнік вязням габрэйскага гета. Помнік нехта размаляваў сіняй фарбай, на ім зроблены зняважальны антысеміцкі надпіс. Гэта не першы падобны выпадак у горадзе, аднак міліцыя чамусьці не хоча заводзіць па фактах ванадалізму крымінальных справаў.

## Сеў за інтэрнэт-крадзеж

У Беларусі ўпершыню вынесены судовы вырак чалавеку, абвінавачанаму ў крадзяжах праз камп'ютэрныя тэхналогіі. Ім аказаўся 21-гадовы студэнт мінскай эканамічнай ВНУ. Малады махляр абрабаваў замежныя інтэрнэт-крамы на суму 30 тысячаў долараў. За гэта яму давядзецца правесці 4 гады ў зняволенні. Дарэчы, палова хакерскіх злачынстваў на тэрыторыі СНД прыпадаюць якраз на Мінск.

## Дай мільёнчык!

14 чэрвеня ў судзе Кастрычніцкага раёна Мінска адбудзецца першае паседжанне па іскавай заяве народнага артыста Беларусі, мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь, прафесара Міхаіла Фінберга. Сенатар Савета Рэспублікі падаў судовую скаргу аб абароне гонару, годнасці і справавай рэпутацыі супраць журналіста «Белорусской деловой газеты» Зміцера Падбярэзскага. Маэстра вымагае ў якасці кампенсацыі за маральныя страты спагнаць па 500 тысячаў рублёў з выдання і асабіста з журналіста за апублікаваны ў сёлетнім сакавіку артыкул «Концерт для грудной жабы». Міхаіл Фінберг лічыць, што ён прадстаўлены ў ім асобай, што намагаецца забраць да сваіх рук усю эстрадна-канцэртную дзейнасць у Беларусі.

Гэтая іскавая заява вядомага артыста і дужа вялікая запатрабаваная сума маральнай кампенсацыі чамусьці бянтэжыць. Падставы для звароту ў суд не выглядаюць такімі ўжо аднаначнымі, то бы звычайны журналісцкі погляд на культурніцкае канцэртавае жыццё ў краіне. Такое ўражанне, што спадара Фінберга пайсці на гэты крок нехта проста падбухторыў ці папрасіў. А мо гэта школы ўплыў сенатарства?

**Алесь КАЗЛЮКЕВІЧ**

# Еўрасаюз – за дэмакратычныя выбары

Еўрапейскі Саюз прыняў заяву з нагоды выбараў прэзідэнта Беларусі, запланаваных на 9 верасня. Яна была распаўсюджаная ў Бруселі, Стакгольме і Мінску ў панядзелак, 11 чэрвеня.

У дакуменце адзначаецца, што Еўрасаюз выступае за дэмакратычнае развіццё Беларусі. Заява падкрэслівае важнасць свабодных і сумленных выбараў.

Маючыя адбыцца выбары прадастаўляюць Беларусі магчымасць палепшыць свае стасункі з Еўрапейскім Саюзам і ўсёй міжнароднай супольнасцю. У гэтай сувязі ЕС просіць беларускія ўлады пайсці на неабходныя захады, каб перадвыбарная кампанія была справядлівай, а самі выбары – калі дэмакратычнымі.

Еўрасаюз вельмі настойліва просіць урад Беларусі прытрымлівацца абавязацельстваў, узятых на сябе ў рамках Капенгагенскага дакумента АБСЕ, і ўстрымацца ад умяшальніцтва ў дзейнасць палітычнай апазіцыі і незалежных рухаў. Неабходна прытрымлівацца прынцыпу свабоды сходаў, бо ён мае «капітальнае значэнне», гаворыцца ў дакуменце.

Аб'яднаная Еўропа таксама лічыць сваім абавязкам нагадаць ураду Беларусі, што да ўсіх кандыдатаў у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі мусіць быць аднолькавае стаўленне, а незалежныя СМІ мусяць мець магчымасць працаваць у такіх самых умовах, у якіх працуюць дзяржаўныя. Дыскрымінацыя незалежнай прэсы не дапушчальная.

Вялікая частка заявы Еўрасаюза з нагоды выбараў у Беларусі прысвечаная ролі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе ў выбарчым працэсе. Адзначаецца, што прынясце ва ўвагу рэкамендацыяў АБСЕ ў частцы выканання выбарчага заканадаўства магло б пасадзейнічаць правядзенню дэмакратычных выбараў. Еўрасаюз паведамляе, што цалкам падтрымлівае працу Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ, якая дзейнічае ў рамках свайго мандату, і што будзе праводзіць шчыльныя кансультацыі з АБСЕ падчас выбарчага перыяду. ЕС таксама заявіў, што чакае ад беларускіх уладаў працягу дыялога з КНГ АБСЕ і «канструктыўнага супрацоўніцтва» з яе кіраўніком Хансам-Георгам Вікам.

У заяве адзначаецца гатоўнасць Еўрасаюза «весці дыялог з урадам Беларусі, каб спрыяць правядзенню дэмакратычных прэзідэнцкіх выбараў».

«Еўрасаюз мог бы зрабіць першы крок для нармалізацыі адносінаў з Беларуссю ў выпадку, калі ўнутраныя назіральнікі і, магчыма, місія БДІПЧ (Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека. – **Р.П.**) ацэняць выбары ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі як свабодныя і справядлівыя».

Такім чынам, Еўропа гатовая да супрацоўніцтва з Беларуссю – але для гэтага беларускім уладам спатрэбіцца «наступіць на горла сваёй песні». У самы бліжэйшы час стане канчаткова зразумела, наколькі ўрад краіны зацікаўлены ў супрацоўніцтве з Еўропай.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Льготы па кватэрным крэдытаванні

Міністэрствам архітэктуры і будаўніцтва Беларусі падрыхтаваны праект зменаў і дапаўненняў ва ўказ «Аб прадастаўленні грамадзянам ільготных крэдытаў на будаўніцтва (рэканструкцыю) альбо набыццё жылых памяшканняў». Праект прадугледжвае ўвядзенне льготных умоваў крэдытавання. Прыкладам, плануецца крэдытаванне пад 5% гадавых на тэрмін да 40 гадоў на суму да 95% ад кашгарысу кватэры, якая будуецца ці набываецца.

## Сумесныя трафеі з мяжы

Падведзены вынікі спецыяльнай аперацыі «Мяжа-2001», якая праводзілася з 28 траўня да 7 чэрвеня па ініцыятыве камітэтаў па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю Беларусі, Украіны і Расіі.

За гэтыя дні канфіскаваныя 26 адзінак агнястрэльнай зброі, 17 грамаў гераіну, больш за 1 кілаграм макавай саломкі, 24 адзінкі транспартных сродкаў, буйныя сумы долараў і расійскіх рублёў, 54 тысячы пачкаў цыгарэтаў, 76 тонаў спірта-гарэлачнай прадукцыі.

# Тэлевізійная эквілібрыстыка

У мінулы панядзелак да самага вечара ў Беларусі не працавалі расійскія тэлеканалы – ОРТ, РТР, «Культура» і НТВ. Афіцыйная версія, якая з'явілася толькі бліжэй да вечара, сцвярджала, што каналы былі перакрытыя «на прафілактыку».

Аднак звычайна пра «прафілактыку» папярэджваюць загадзя, і тэлепраграмы ў Беларусі складаюцца з яе улікам. На гэты раз усё было па-іншаму.

Наўрад ці супадзеннем можна было назваць той факт, што літаральна напярэдадні ў праграме ОРТ «Времена» Уладзіміра Познера на экране з'явілася чацвёра патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты ад апазіцыі – Сямён Домаш, Павел Казлоўскі, Сяргей Калякін і Міхаіл Чыгір – плюс старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька. Выступ беларускай апазіцыі на расійскім тэлебачанні выглядаў не вельмі ўдала, але ва ўмовах «інфармацыйнай вайны» ён, відаць, змог выклікаць рэпрэсіўныя захады ў адказ.

Нагадаем, што ў апошні час адключэнне расійскіх тэлеканалаў у Беларусі адбылося 8-9 траўня. Іхні сігнал быў заменены на БТшны. АляксандрЛукашэнка тады разважаў пра «тэхнічныя збоі» і «галавацяпства асобных людзей». Але раней намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Уладзімір Замяталін выказаўся ў зусім іншым ключы. Ён заявіў тады, што адключэнне не было выпадковым. Па ягоных словах, гэта быў «акт рэалізацыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, рэальна, на працягу пэўнага часу». Такім чынам, па версіі У.Замяталіна, беларускія ўлады «паказалі свае магчымасці». Цяпер жа, як бачым, гэтыя самыя «магчымасці» пачынаюць рэалізоўвацца.

Чым бліжэй да прэзідэнцкіх выбараў, тым больш важна будзе для А.Лукашэнкі не дапусціць распаўсюджання інфармацыі пра ягоных канкурэнтаў у выбарчай гонцы. Ясна, што першы памагаты беларускаму кіраўніку тут – БТ. Але, на вялікі жаль прэзідэнцкіх чыноўнікаў, дагэтуль у Беларусі больш глядзяць расійскія тэлеканалы. І ўжо цяпер кідаюцца «пробныя шары»: як адрэагуе грамадства, напрыклад, на «перманентную прафілактыку»?

Варта адзначыць, што рэакцыя аказалася адмоўнай. «Радыё Рацыя» паведаміла, што пры спыненні трансляцыі расійскіх тэлеканалаў выклікала літаральна шквал тэлефанаванняў у прыёмную тэлерадыёкампаніі. Людзі не ведалі, што пасля 16.00 яны зноў змогуць глядзець расійскае ТБ, і таму страшэнна абураліся з таго, што прафілактыкі сталі адбывацца надзвычай часта.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1400**

# Нецярплівыя кандыдаты

12 чэрвеня Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў зарэгістравала дзве першыя ініцыятыўныя групы па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты.

Рэгістрацыйны нумар 1 атрымала ініцыятыўная група Віктара Цярэшчанкі, які раней за іншых прэтэндэнтаў (яшчэ 9 чэрвеня) здаў у Цэнтрвыбаркам усе неабходныя для гэтага дакументы. У ініцыятыўную групу Цярэшчанкі ўваходзяць больш за 6 тысяч чалавек. Сам Віктар Цярэшчанка паабяцаў на паседжанні членаў ЦВК весці сваю выбарчую кампанію ў рамках Канстытуцыі і беларускага заканадаўства і не выкарыстоўваць «брудныя піяртэхналогіі».



Сяргей Гайдукевіч



Фота IREX/ProMedia

Віктар Цярэшчанка (злева) у небяспечнай кампаніі Віктара Ганчара (знік) і Андрэя Клімава (за кратамі)

Члены другой ініцыятыўнай групы ў складзе 2.134 чалавек будуць збіраць подпісы ў падтрымку лідэра Ліберальна-дэмакратычнай партыі і блока «Новая Беларусь — Адзінства» Сяргея Гайдукевіча.

Сёння кіраўнікі штабоў прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду кіраўніка дзяржавы змогуць атрымаць пасведчанні на ўсіх членаў ініцыятыўных групаў. Аднак збіраць подпісы яны маюць права толькі з 21 чэрвеня.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН**

# Шчукін пайшоў на пасадку

Учора на тры месяцы быў арыштаваны былы дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання, праваабаронца і журналіст Валерый Шчукін. Яго чакаюць тры месяцы адсідкі ў мінскім следчым ізалятары (СІЗА) за шкло, што было разбітае падчас прэсканферэнцыі міністра ўнутраных справаў Уладзіміра Навумава, на якую яго не пусцілі. Так што за ўсімі перыпетыямі перадвыбарнай барацьбы В.Шчукіну давядзецца назіраць з-за кратаў.



Валерый Шчукін сам учора прыйшоў «здавацца» ў Фрунзенскае раённае управленне ўнутраных справаў. Адтуль яго павезлі пад канвоем у СІЗА.

У інтэрв'ю Радыё «Свабода» Валерый Шчукін так пракаментаваў сваё зняволенне: «92 сутак, ці шэсць разоў па 15 сутак мне далі за тое, што я адстойваў свабоду слова ў Беларусі. У той дзень, 16 студзеня, я ішоў на адкрытую прэсавую канферэнцыю. Я загадзя папярэдзіў, што прыйду, але мяне не пускалі, а гэта незаконна. Я не парушаў парадку ў грамадстве. Я парушыў нейкі ўнутраны парадак у міністэрстве ўнутраных справаў, нейкую іхнюю інструкцыю. Навумаў за гэта ўхапіўся і на прэсавай канферэнцыі казаў, што мяне пасадзяць на 15 сутак».

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Прафесара затрымалі на мяжы

## *Уцёкі ці правакацыя?*

У Гомелі скандал — былы рэктар Гомельскага дзяржаўнага медінстытута прафесар Юрый Бандажэўскі ў нядзельны вечар быў затрыманы ў пункце пропуску «Новая Гута» за незаконнае перасячэнне беларуска-ўкраінскай мяжы. Ён меў пры сабе пашпарт на імя грамадзяніна Украіны. Разам з Ю.Бандажэўскім былі трое грамадзянаў Украіны, яны таксама затрыманыя і знаходзяцца ў ізалятары часовага ўтрымання.

У затрыманні былога рэктара ўдзельнічалі супрацоўнікі Гомельскага памежнага атрада і ўпраўлення па Гомельскай вобласці Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі.

Нагадаем, што Ю.Бандажэўскі абвінавачваецца ў злоўжыванні службовым становішчам і хабарніцтве. Крымінальную справу вядзе Ваенная калегія Вярхоўнага суда Беларусі.

Прысуд па справе Бандажэўскага будзе вынесены 18 чэрвеня. Пракурор просіць для былога рэктара пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі на 9 гадоў. Варта зазначыць, што Ю.Бандажэўскі па стане здароўя быў вызвалены з-пад арышту і даваў падпіску аб нявыездзе.

Калі стала вядома пра затрыманне Юрыя Бандажэўскага, ягоная жонка Галіна заявіла агенцтву БелаПАН, што гэта была спланаваная правакацыя. Па яе словах, 10 чэрвеня Ю.Бандажэўскі планаваў з'ехаць у Мінск, каб 11 чэрвеня падрыхтаваць для выдання сваю новую манаграфію «Радыяцэзій і прыроджаныя парокі», якую напісаў на падставе сваіх эксперыментаў. Па яе словах, апошнія 7-10 дзён за прафесарам вялося шчыльнае сачэнне, па тэлефоне іхняй сям'і пагражалі. Г.Бандажэўская не выключыла, што на мяжы яе муж мог апынуцца не па сваёй волі.

Учора ў Гомелі прайшло перадапошняе судовае паседжанне па справе Ю.Бандажэўскага. Пасля яго заканчэння былы рэктар заявіў агенцтву БелаПАН, што «ў суботу і нядзелю стваралася рэальная пагроза жыццю — майму і членаў маёй сям'і». Ён адмовіўся паведаміць, ці быў ён сапраўды 10 чэрвеня на пагранічным пропуску «Новая Гута» беларуска-ўкраінскай мяжы, дзе ён, нібыта, быў затрыманы. Сваю адмову ён матываваў пагрозай яго жыццю. «Спачатку я павінен выратаваць сабе жыццё», — сказаў прафесар.

БелаПАН паведамляе, што Ю.Бандажэўскі знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання пагранічнага атрада. З часу затрымання і дагэтуль яму было адмоўлена ў паслугах адваката. Паводле словаў ягонага абаронцы Аляксандра Баранава, яго не дапускаюць да Бандажэўскага на той падставе, што, нібыта, адвакат па адміністрацыйных справах не патрэбны. Аляксандр Баранаў заявіў, што гэта незаконна, і ён будзе працягваць дамагацца сустрэчы з прафесарам. Як стала вядома БелаПАН, адміністрацыйнае затрыманне Бандажэўскаму працягнута да 10 сутак, гэта значыць да 20 чэрвеня. На думку адваката Баранава, затрыманне яго падабароннага супрацьзаконнае, паколькі санкцыяй за адміністрацыйнае правапарушэнне, якое інкрымінуецца Бандажэўскаму — парушэнне правілаў уезду ў пагранічную зону, — прадугледжана толькі папярэджанне або штраф у памеры 3 мінімальных зарплатаў.

Неабходна адзначыць, што ў аператыўнай здымцы, якую вялі супрацоўнікі УКАЗ на пагранічным пункце «Новая Гута» 10 чэрвеня і якую прадаставілі ў распараджэнне Беларускага тэлебачання, прафесар Бандажэўскі не фігуруе. Пра гэта БелаПАН паведаміла карэспандэнт АТН Святлана Канапацкая, якая асабіста рыхтавала для Першага нацыянальнага тэлеканала сюжэт пра інцыдэнт. Супрацоўнікі УКАЗ гэтую акалічнасць каменціраваць адмаўляюцца.

**Мікола ДЗІЦЭВІЧ**

ВЫБАРЫ

# Назіральнікі рыхтуюцца да выбараў





Фота Ул.ШЛАПАКА

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Кіраўнік Усебеларускага клуба выбаршчыкаў Уладзімір Гудзееў адзначыў, што наўрад ці ўдасца закрыць усе выбарчыя ўчасткі на ўсе 100%; аднак ён гарантаваў закрыццё ўчасткаў «на тры чвэрці». Рэч не ў тым, што не стае людзей; назіральнікаў трэба падрыхтаваць, каб яны ведалі хоць мінімум неабходнага.

Сустаршыня «Незалежнага погляду» Мечыслаў Грыб гаворыць пра два верагодныя варыянты правядзення прэзідэнцкіх выбараў. «Беларускія ўлады сёння маюць на ўвазе два варыянты правядзення арганізацыі выбараў. Першы: больш-менш лаяльныя выбары ў адпаведнасці з Выбарчым кодэксам. Другі варыянт – гэта варыянт татальнай фальсіфікацыі. На мой погляд, ён будзе прыменены хутчэй, чым першы варыянт», — сцвярджае М.Грыб.

За ажыццяўленне варыянта татальных фальсіфікацыяў сведчыць той факт, што «ўлады робяць усё, каб стварыць камісіі з людзей, якія падпарадкаваныя ўладзе».

«Да фарміравання ўчастковых камісіяў – да 7 ліпеня – яшчэ дастаткова часу, але ўжо сёння робяцца пратаколы сходаў і так далей, каб як мага хутчэй выканкамы атрымалі як мага больш дакументаў заяваў аб удзеле ва ўчастковых выбарчых камісіях. Зразумела, для таго, каб потым была магчымасць адмовіць непажаданым людзям», — падкрэсліў М.Грыб.

**Рыгор БУЯН**

# Его называли «сукиным сыном»

В воскресенье вечером, 10 июня, информационная программа ОРТ «Времена» впервые представила белорусскому телезрителю основных и наиболее вероятных кандидатов на пост нового президента Республики Беларусь. Как известно, выступить в прямом эфире на отечественном телевидении порядочному человеку совершенно невозможно. На нашей памяти был едва ли не единственный опыт приглашения в студию Станислава Шушкевича, во время которого известный политик не стал ходить вокруг да около навязанной ведущим глубокомысленной чепухи, а прямо заявил о своем отношении к нынешней власти. На этом игра в «демократию» персональных лукашенковских телевизионщиков закончилась навсегда. Совершенно естественно, что в результате подобных затруднений у себя на Родине потенциальные кандидаты в президенты Республики Беларусь вынуждены были накануне президентских выборов обратиться к российским тележурналистам с предложением обсудить в эфире некоторые деликатные аспекты российско-белорусских отношений. И нашли понимание в лице наипопулярнейшего телеведущего Владимира Познера. Одну из частей своей программы он посвятил белорусским реалиям, связав их с долгосрочными российскими интересами. Как известно, монополия Лукашенко на российско-белорусскую интеграцию привела к девальвации идеи, к ее повальному отрицанию, к напряжению в белорусском обществе, к снежному кому официальной лжи, к неверному представлению россиян о белорусской политической действительности и роли в ней некоторых личностей, к антироссийским настроениям в обществе. «Лукашенко – бесперспективный политик, приведший страну на грань катастрофы, и если Россия поддерживает его, она автоматически поддерживает нищету и бесправие белорусов» — вот лейтмотив этой части программы «Времена».

Итак, в студии ОРТ в воскресенье мы увидели Михаила Чигиря, Павла Козловского, Семена Домаша и Сергея Калякина – членов демократической пятерки потенциальных кандидатов на пост нового президента Беларуси — и Анатолия Лебедько – председателя Объединенной гражданской партии. Они обратились к телезрителям с очень краткими сообщениями, в которых подвергли смелой и нелицеприятной критике ту модель интеграции, которая нынче избрана в отношениях между двумя государствами. В качестве оппонентов и защитников нынешнего белорусского политического режима выступили Виталий Третьяков — бывший главный редактор российской «Независимой газеты», недавно уволенный оттуда за тенденциозное педалирование темы великодержавности, что отпугивало от газеты солидных читателей и рекламодателей, и некто Тихонов – ярый коммунист со стажем, депутат самого реакционного и реваншистского крыла российской Думы. В результате, несмотря на ярость и бешенство г-на Тихонова и на скептическую, мнозначительную маску «всезнайки» г-на Третьякова, здоровые силы в студии ОРТ одержали убедительную победу и повергли в растерянность апологетов лукашенковского режима. Защищая союз двух государств по сценарию Лукашенко, те невольно проговорились в охватившем их полемическом запале. Г-н Тихонов назвал интеграцию «более выгодной России, чем Беларуси», а г-н Третьяков, перефразируя известное изречение о «сукином сыне» диктаторе Сомосе, сказал примерно так: «Лукашенко – наш **(российский, великодержавный, шовинистический, коммунистический? — Авт.)** сукин сын». Надо ли говорить, что все эти оговорки вызвали совершенно определенную реакцию всех присутствующих в студии, один из которых назвал белорусского узурпатора «клоуном и диктатором» и пожелал белорусам поскорее избавиться от этой одиозной личности. Это смелое и честное заявление, созвучное чаяниям миллионов белорусов, было встречено бурными аплодисментами не только в студии, но, пожалуй, и у экранов телевизоров по всей Беларуси. Таким образом, передача «Времена» стала образцовым примером действительно братского укрепления дружбы и понимания между народами, в отличие от лицемерных и натужных заявлений политиканов в показательных интеграционных мероприятиях. Трудно переоценить в этом роль Владимира Познера – мужественного и очень обаятельного человека. Вот он — недостижимый идеал тележурналиста для чикинских отмороженных субъектов!

Участие в передаче «Времена» явилось нужным, хотя и очень мимолетным бенефисом белорусских демократических кандидатов. В целом они произвели благоприятное впечатление. Достаточно телегенично смотрелись Михаил Чигирь, Павел Козловский и Семен Домаш. Хорошо запомнились аргументы и факты из выступлений двух первых претендентов. Нетелегеничным и неподготовленным к работе на такую аудиторию выглядел словно застигнутый врасплох Сергей Калякин. Робким и нерешительным показался Семен Домаш. Все они, кроме Козловского, запомнились сгорбившимися. К сожалению, времени для учебы, постановки осанки и голоса уже не осталось. Каждый удобный случай должно сейчас на все сто процентов использовать для закрепления в сознании избирателей положительного имиджа, уверенности, твердости, рассудительности, естественности. Ежедневная физзарядка и самотренинг каждого из кандидатов должна заканчиваться перед зеркалом при полном параде. Они должны периодически наблюдать себя со стороны, устраняя недостатки и усиливая привлекательные черты. Этому очень хорошо помогают съемки на бытовые видеокамеры.

Единственное «но», возникшее после просмотра передачи – ощущение невероятно сузившегося политического пространства для потенциального белорусского президента по сравнению с 1994 годом. Кто бы он ни был, приходится принимать реалии нынешнего антиконституционного документа о союзе двух государств. Нельзя уже без издержек перевести разговор в плоскость чисто экономического сотрудничества между двумя странами, в чем в первую очередь и заинтересована Беларусь. Ущерб, который нанес престижу нашей страны Лукашенко, огромен и не поддается описанию.

**Томаш ПАЛЬМАЧИНСКИЙ**

ДЗЕ? ДЗЕ?

7 ліпеня мінае год, як знік наш калега, тэлеаператар

Рэпарцёры — не палітыкі.
Журналісты — не суддзі.
Але зафіксаваныя рэпарцёрамі факты наўмысна ці неспадзявана выносяць прысуд нават таму, што палітыкі імкнуцца схаваць ад людскіх вачэй.
Няма рэпарцёра — няма суда?
Дзе Дзмітрый Завадскі?
Хто і з якога права распараджаецца яго лёсам?

Беларуская Асацыяцыя Журналістаў патрабуе праўды!

Дзмітрый ЗАВАДСКІ ДЗЕ?

# «Крок да свабоды» Васіля Быкава

*«Бяз хлеба немагчымая свабода, якой перш-наперш патрэбная праўда, — кажа Васіль Быкаў. — Але праўда заўсёды прадукт свабоды. Падобна – зачараванае кола».*



Адказваючы на пытаньне – калі ён упершыню сутыкнуўся зь несвабодай, пісьменьнік не аддзяляе сябе і свой лёс ад лёсу суайчыньнікаў.

«Я добра памятаю той дзень і час, калі ня толькі я, але, я так лічу, і народ страціў свабоду. Гэта, канечне, была для майго пакаленьня на пачатку 30-х гадоў суцэльная калектывізацыя краіны. Ня толькі свабода – было страчанае ўсё, зьвязанае зь ёй. Адбылася ўвогуле клясычная зьява. Зьнікла свабода, і як вынік таго – зьнік хлеб. Народ на доўгія дзесяцігодзьдзі ўпаў у паласу хранічнае галадоўкі.

Але рэч яшчэ ў тым – ці адчуваў ён узаемазалежнасьць свабоды й хлеба? Наўрад ці. Хаця тое выдатна разумелі бальшавіцкія кіраўнікі, якія ўпарта цьвердзілі пра «новую клясавую свабоду», якой яны ў 17-м годзе дамагліся дзеля народу. Тое, вядома, была мана, і яны ведалі гэта. Мабыць, гэта разумеў і адчуваў народ, але не хацеў верыць самому сабе. Бо мана была прыгажэйшаю за рэчаіснасьць, прыгажэйшаю за свабоду. А можа – і за хлеб таксама».

Гэтая тэма, бадай, стала адной з галоўных у творчасьці Васіля Быкава пасьля тэмы вайны.

Вось характэрны ўрывак з аповесці Быкава «Аблава»:

«Заўжды дзелавы, рухавы Наэм брыў па вуліцы, бы нічога не заўважаючы вакол. Усё ж Хведар павітаўся, і яны разгаварыліся трохі, а тады Хведар дазнаўся, што і ў Наэма таксама нелады з уладай. Як Хведар паскардзіўся на сваю бяду, стары яўрэй узяў яго за гузік і дужа пацягнуў да сябе: «Я табе кажу – кідай усё, бяры дзяцей у ахапку і ўцякай! Куды? Ня важна, куды. Куды вочы глядзяць! Пасьля позна будзе. Гэта табе кажа Наэм. Я ўсё кінуў і во, з гэтымі вандзэлкамі іду на станцыю. Я тут не жыхар болей. Я бежанец! Ты мяне паслухай, Хведар!»

Не, тады Хведар яго не паслухаў. Як гэта, усё кінуць? А зямля, а гаспадарка! І куды падацца? Тут усе яго карані, вяскоўцы, радня. Як жа ж ён можа зьехаць і куды – у непрытульны, нязнаны сьвет.

Ён пражыў у нядолішчы яшчэ месяцаў дзесяць. Нярадаснае тое было жыцьцё. Бязхлеб'е і посьніца надоўга пасялілася ў ягонай хаце».

«Аблава» перакладзена на польскую мову вядомым пісьменнікам і перакладчыкам Чэславам Сэнюхам. Ён пераклаў на польскую мову многія творы Васіля Быкава. Чэслаў Сэнюх – адзін з аўтараў перакладу кнігі Быкава «Сьцяна», якая выйшла нядаўна ў Беластоку. Паводле Ч.Сэнюха, у фондах Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве ён налічыў трынаццаць розных выданьняў твораў Быкава. Сярод перакладчыкаў былі такія выдатныя майстры слова, як Анджэй Дравіч і Віктар Варашыльскі. І гэта толькі ў Польшчы!

Кнігі Быкава выдаюцца і перавыдаюцца ў многіх краінах сьвету, у тым ліку ў Нямеччыне. Сярод першых, хто ацаніў маштаб ягонага таленту, быў славуты Гайнрых Бёль.

У Беларусі ж партыйныя органы некалі цкавалі Быкава за ягоныя аповесьці «Мёртвым не баліць» і «Круглянскі мост», апублікаваныя ў часопісе «Новый мир», абвінавачвалі ў «ачарніцельстве». Ужо ў нашыя дні выдавецтва «Мастацкая літаратура» выкінула з плянаў зборнік пісьменьніка «Сьцяна».

Тыя, хто настальгуе па Савецкім Саюзе і ненавідзіць Быкава, ня могуць дараваць яму званьне народнага пісьменьніка БССР, Ленінскую прэмію за «Знак бяды» і асабліва – званьне Героя Сацыялістычнай працы.

Дарэчы, званьне тройчы Героя не перашкодзіла ўладам у свой час адправіць у высылку акадэміка Андрэя Сахарава. Потым Васіль Быкаў, абраны народным дэпутатам СССР ад Саюзу пісьменьнікаў, апынецца зь ім у міжрэгіянальнай дэпутацкай групе – разам з Адамовічам, Каракіным, Ельцыным...

Што такое свабода ва ўяўленьні Васіля Быкава?

Зманліва кажа Зянон Пазьняк, што каб адчуць сябе свабодным, трэба пачаць за свабоду змагацца. «Чалавек свабодны, калі яму ня трэба выбіраць», – пісаў расейскі філёзаф Мікалай Бярдзяеў. Але маецца на ўвазе свабода індывідуальная, а не калектыўная. Падобна, калектывы, масы, народы існуюць, у гэтым сэнсе, паводле іншых законаў – законаў мас. Як цяпер бы сказалі, паводле законаў калектыўнага й несьвядомага. Во ў чым праблема!

Тое выдатна разумеюць тыраны-авантурысты, але, на мой пагляд, зь цяжкасьцю спасьцігаюць сумленныя дэмакраты. Усё ж свабода, мабыць, – велічыня абсалютная і не падлягае адмысловаму вымярэньню. Там, дзе яна ёсьць, не патрэбная пра яе і гаворка. Гаворкі й дыскусіі ідуць, звычайна, пра меру свабоды – гэта значыць, па сутнасьці, пра несвабоду».

Васіль Быкаў у адным зь інтэрвію для газэты «Літаратура і мастацтва» – гэта было напрыканцы 80-х – з павагай згадаў француската пісьменьніка Альбэра Камю. У біяграфіі абодвух аўтараў, зусім розных, ёсьць, дарэчы агульнае. Камю быў удзельнікам антыфашысцкага супраціву. Быкаў ваяваў на фронце, быў двойчы паранены. Абодвух можна назваць пасьлядоўнымі ворагамі фашызму ва ўсіх яго праявах.

Прыхільнік экзыстэнцыялізму (гэтая назва філязофскай плыні па француз гучыць *existence* – існаваньне) Альбэр Камю пісаў у сваім вядомым творы «Падзеньне»:

«Я ня ведаў, што свабоду не ўраўнаеш з узнагародай ці знакам адрозьненьня, у гонар якіх п'юць шампанскае. Гэта і не прыцягальны падарунак кшталту кардонкі з цукеркамі. О, не! Зусім наадварот – гэта адчайны бег, наколькі хопіць сілаў, і пры гэтым – у самоце...

...Ты адзін у змрочнай залі, адзін на лаве падсудных перад судзьдзямі і сам павінен адказваць перад сабой альбо судом людзкім. Напрыканцы ўсялякай свабоды нас чакае кара; вось чаму свабода – цяжкая ноша».

Васіль Быкаў нідзе не дэкляруе наўпрост сваю прыхільнасьць да экзыстэнцыялізму. Але ўспомнім яго герояў – Сотнікава, Петрака, Стэпаніду, для кожнага зь якіх свабода – цяжкая ноша, ад якой, аднак ніяк, нізавошта ў сьвеце нельга адмовіцца.

Дык што ж ёсьць свабода паводле Васіля Быкава?

«Калі тае свабоды занадта мала – няма й дыскусіі; зрэшты, няма й барацьбы. Барацьба за свабоду безвыніковая ў несвабодным, спрэс таталітарным грамадзтве. Тая барацьба, хіба, дае плён у часткова несвабодных грамадзтвах або ў часткова свабодных. Людзі ж несвабодныя цалкам няздольныя для барацьбы за яе, бо знаходзяцца ў палоне сваёй несвабоды. Тую несвабоду яны звыкла ўважаюць за свабоду. Во ў чым парадокс тае д'ябальскай падмены!

Так гэта было ў старажытных нявольніцкіх грамадзтвах, у бальшавіцкім СССР, у гітлераўскай Нямеччыне, шмат дзе ў сьвеце застаецца і дагэтуль. Тыя грамадзтвы з часам страчваюць усялякі інстынкт свабоды і дужа зьдзіўляюцца, калі ім з вольнага сьвету заўважаюць пра іх несвабоду. Свабодай для іх зрабілася несвабода, як у геніяльнага Оруэла. І гора ім, калі лёс ці гісторыя змушаюць іх перайначыцца ў іх спрадвечнай нявольніцкай прыхільнасьці і ступаць на свабодны дэмакратычны лад, які яны шчыра і ўстойліва ня любяць. Бо не народжаныя дзеля таго ладу, народжаныя для іншага – звыклага, простага, жывёльнага, па сутнасьці.

Але рэч у тым, што тое існаваньне дае ім хлеб. А свабода ў іхнай сьвядомасьці ўжо не атаясамляецца з хлебам, хутчэй – з голадам. Уся праблема ў тым, што той пагляд мае нямала рацыі.

Несвабода – не заўсёды голад, часам бывае і наадварот. У фашыстоўскай Нямеччыне не было свабоды, але быў хлеб. У цяперашнім Кітаі няма свабоды, але ёсьць хлеб – прынамсі, больш, чым у нас, дзе ва ўсе часы не было ні свабоды, ні хлеба. Таксама ўнікальная зьява, вартая Оруэла. Зрэшты, ва ўмовах несвабоды Оруэлы не зьяўляюцца. Такога кшталту таленты – прадукт свабоды. Несвабода спараджае творчасьці іншага кшталту – высокакваліфікаваных майстроў масавых забойстваў, шпіёнскага заваяваньня космасу ды віртуозных філёзафаў, здольных па-навуковаму абгрунтаваць усё, што заўгодна рэжыму».

Пяць гадоў таму на кангрэсе беларускага ПЭН-клюбу Васіль Быкаў з горкай іроніяй цытаваў аднаго з заснавальнікаў экзыстэнцыялізму К'еркегора: «Людзі маюць свабоду думкі, а ім падавай свабоду слова...». Аднак, на думку Быкава, «нявыказаная, задушаная ў несвабодзе сьвядомасьці» думка ня можа быць існцінай. Вымаўляючы яе, «чалавек рэалізуе адно з найвялікшых уласных адрозьненьняў ад усяго існага – сваё боскае наканаваньне ў сьвеце...»

Слова, казаў пісьменьнік, «апошні, мабыць, самы нескароны чыньнік, які ўлада пасьлядоўна імкнецца адабраць у прыгнечаных».

А што ж народ? Ці можа ён стаць свабодным? Васіль Быкаў сёньня дае такі адказ на гэтае пытаньне:

«А народ, як і сто год таму, ва ўмовах несвабоды «цёмны і сьляпы, нібы крот». Але той факт усяляк хаваецца ад сьвету, у тым ліку і ад народу. Бо той факт – складнік сьвятое праўды. А праўда, тым болей сьвятая, ёсьць набытак свабоды і свабоднага грамадзтва. Іншым яна не патрэбная.

І вось сытуацыя: без свабоды няма хлеба. Бяз хлеба немагчымая свабода, якой перш-наперш патрэбная праўда. Але праўда заўсёды прадукт свабоды. Падобна – зачараванае кола. Я ня ведаю, як і калі здолее разарваць яго Беларусь».

Да гэтых словаў пісьменьніка можна дадаць, хіба вось што. Васіль Быкаў разарваў тое зачараванае кола.

У адным са сваіх даўнейшых інтэрвію пісьменьнік прыгадаў маральны прынцып Льва Талстога – «каб пераправіцца цераз раку ў прызначанае месца, трэба браць куды вышэй па цячэньні, бо калі прыцэльвацца на тое ж месца, куды трэба патрапіць, цячэньне зьнясе ніжэй...» Той жа прынцып можна бачыць у жыцьці і творчасьці Васіля Быкава

**Віталь ТАРАС, Прага**
**Радыё Свабода**

# Праз навуку – да праўды

Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны сумесна з кафедрай беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, Польскім беларусазнаўчым таварыствам і Польскім інстытутам у Мінску праводзяць на гэтым тыдні беларуска-польскую канферэнцыю «Праз навуку – да праўды».

Такія канферэнцыі ладзяцца штогод. Сёлета яна пройдзе 15-16 чэрвеня ў памяшканні Скарынаўскага цэнтра і ахопіць тэматыкай сучасныя польска-беларускія культурніцкія ўзаемадачыненні. Як распавяла дырэктарка Цэнтра Любоў Уладыкоўская-Канаплянік, удзел у канферэнцыі возьмуць каля двух дзесяткаў беларускіх навукоўцаў, а таксама польскія адмыслоўцы з Варшавы, Ольштына і Беластока. Напрыклад, прагучаць такія даклады, як «Ментальнасць беларусаў і палякаў: падабенства і адрозненні» Эдуарда Дубянецкага, «Польшча ў люстэрку сучаснай беларускай прэсы» Юрыя Вашкевіча, даклад аб міжкультурніцкіх польска-беларускіх камунікацыях польскага сацыёлага Рычарда Радзіка.

Дырэктарка Скарынаўскага цэнтра паведаміла таксама, што знятая на мінулым тыдні з колішняга будынка Інбелкульта на Рэвалюцыйнай,15 невядомымі помная шыльда ў гонар Максіма Гарэцкага яшчэ міліцыяй не адшуканая. Калі цягам пэўнага часу яна так і не будзе знойдзена, Скарынаўскі цэнтр мае намер ініцыяваць стварэнне аналагічнай мемарыяльнай шыльды ў памяць пісьменніка.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Нашы маркі на сусветнай выставе

Беларусь бярэ ўдзел у сусветнай філатэлістычнай выставе «*Belgica-2001*», якая праводзіцца ў Бруселі з 9 да 15 чэрвеня і прысвечаная 500-годдзю еўрапейскай пошты. Датай заснавання паштовай службы ў Еўропе лічыцца дзень прызначэння ў Францыі — у 1501 годзе — Франсуа дэ Тасі «капітанам і майстрам поштаў».

Як паведаміў БелаПАН, вядучы інжынер аддзела рэалізацыі філатэлістычнай прадукцыі выдавецкага цэнтра «Марка» рэспубліканскага дзяржаўнага аб'яднання «Белпошта» Уладзімір Скрабкоў, на выставе экспануецца калекцыя вядомага філатэліста Уладзіміра Качана з Мінска «Матылькі», прадстаўленая Беларускім саюзам філатэлістаў.

Падчас выставы плануецца заключэнне кантрактаў, а таксама будзе праводзіцца памятнае гашэнне. Паводле эскіза мастака Алега Гайко падрыхтаваны спецыяльны штэмпель, які будзе выкарыстаны для гашэння айчыннай філатэлістычнай прадукцыі.

**Марат ГАРАВЫ**

# Новая «бомба» супраць рэжыму




Выйшаў з друку «Турэмны дзёньнік» Славаміра Адамовіча.

«Турэмны дзёньнік» – кніга брутальная і непрыемная, ад яе тхне парашай і чалавечай подласьцю, калгасным кароўнікам і дурной крывёю, вашывымі падлеткамі і... прэзідэнтам», – піша аўтар у сваім уступным слове. І працягвае: «Але пры ўсёй сваёй д'ябальшчыне гэтая кніга мае адзін істотны пазітыў – яна аб'ектыўна праўдзівая».

І сапраўды, запісы, зробленыя аўтарам у следчай турме КДБ, больш вядомай як «амерыканка», а таксама ў віцебскім следчым ізалятары – віцебскім цэнтрале, – яскрава сведчаць пра характар існуючага ў Беларусі палітычнага рэжыму – рэжыму антыбеларускага ў сваёй сутнасці.

«Турэмны дзёньнік» выкананы ў цвёрдай каляровай вокладцы і аздоблены фотаздымкамі вядомых беларускіх фатографаў, а таксама малюнкамі Алеся Пушкіна.

Ёсць у кнізе і знакаміты Адамовічаў верш «Убей президента!», пераклад гэтага тэксту на польскую мову, вершы салідарнасці; публікуюцца дакументы з крымінальнай справы № 182, паводле якой Славамір Адамовіч быў засуджаны на 10 месяцаў зняволення.

Фундатарамі выдання выступілі: беларуска-амерыканская кампанія *Lukjan Metal Products*, беларуская Фундацыя імя Льва Сапегі, беларусы Канады і ЗША.

«Турэмны дзёньнік» паэта можна замовіць па тэлефоне 77-16-49.

**Міраслаў ЧАНТАРЫЦКІ**

